ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

№ 81 (1718) | Аўторак, 9 кастрычніка 1962 года | Цана 4 кап.

**У ГЭТЫМ НУМАРЫ**

НАСУСТРАЧ З'ЕЗДАМ КІНЕМАТАГРАФІСТАЎ

ВЕРШЫ ЯКУБА КОЛАСА

НАШЫ ІНТЭРВ'Ю

Раздзел з «Белазёрскага дзённіка» Ул. Дадзіёмава

СЯРОД КНІГ

Апавяданне фінскага пісьменніка Марці Ларні



Н. Маляваны працуе слесарам-мантажнікам на будаўніцтве Полацкай ГЭС. У гэтыя дні ён нясе працоўную вахту ў гонар 45-й гадавіны Вялікага Кастрычніка і выконвае свае зменныя заданні на 140—150 працэнтаў. Фота Г. УСМАНАВА. (БЕЛТА).

## З КНІГАМІ ДА СЯБРОЎ

У братняй Літве з вялікай цікавасцю чытаюць кнігі беларускіх пісьменнікаў. Творы Янкі Купалы, Якуба Коласа, Кузьмы Чорнага, Максіма Танка, Міхася Лынькова можна ўбачыць у кнігарнях, бібліятэках, у кватэрах рабочых і калгаснікаў. Літаратурныя сувязі беларускіх і літоўскіх пісьменнікаў пашыраюцца і мацнеюць з кожным годам. Днямі ў культурным жыцці двух братніх народаў адбылася яшчэ адна падзея — у Літве пачаўся Тыдзень беларускай кнігі. Ён прысвечаны дзвюм знамянальным датам — 80-годдзю з дня нараджэння Янкі Купалы і Якуба Коласа.

Літоўскія сябры запрасілі да сябе ў госці беларускіх пісьменнікаў. Для ўдзелу ў Тыдні ў Вільнюс выехалі: Р. Барадулін, Н. Гілевіч, І. Грамовіч, Ул. Нядзведскі, А. Русак, А. Русецкі, Т. Хадкевіч, М. Хведаровіч, І. Шамякін.

Урачыстае адкрыццё Тыдня адбылося ў Мастацкім салоне Вільнюса. Сюды сабраліся беларускія і літоўскія пісьменнікі, дзеячы культуры і мастацтва, рабочыя, інтэлігенцыя, студэнты. З цёплымі словамі звярнуўся да прысутных лаўрэат Ленінскай прэміі паэт Э. Межалайціс. Ён гаварыў аб дружбе беларускага і літоўскага народаў, аб кнігах беларускіх аўтараў, выдадзеных на літоўскай мове, аб літоўскіх творах, з якімі добра знаёмы беларускі чытач. У адказ Іван Шамякін падзякаваў прысутным за гасцінны прыём на літоўскай зямлі. Пасля ўрачыстага адкрыцця прысутныя агледзелі вялікую выстаўку беларускай кнігі.

Сяброўская сустрэча пісьменнікаў і чытачоў адбылася ў Цэнтральным кніжным магазіне.

На другі дзень А. Русак, М. Хведаровіч, Н. Гілевіч, Р. Барадулін, Ул. Нядзведскі выехалі ў Каўнас, дзе сустрэліся з працоўнымі горада.

Адбудзецца літаратурны вечар аматараў літаратуры і ў горадзе Друскенікяй. Запланавана таксама сустрэча беларускіх пісьменнікаў з тэлегледачамі.

Тыдзень беларускай кнігі на літоўскай зямлі — сведчанне братняй дружбы дзвюх літаратур.

## У бібліятэцы імя Ул. І. Леніна

«Вялікая Кастрычніцкая рэвалюцыя» — так называецца выстаўка, якая адкрылася днямі ў вестыбюлі бібліятэкі. Яна мае раздзелы «Перамога Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі», «Ленін — правадыр Кастрычніка», «Савецкі народ у барацьбе за перамогу сацыялізма», «Перамога савецкага народа ў Вялікай Айчыннай вайне», «Камуністычнае будаўніцтва ў БССР». На выстаўцы — працы Ул. І. Леніна аб рэвалюцыі, артыкулы дзеячоў Камуністычнай партыі і Савецкага ўрада, брашуры, фотаздымкі.

* * *

Наведвальнікі з цікавасцю разглядаюць стэнд, на якім выданні Дзяржаўнай бібліятэкі. Тут можна пазнаёміцца з бібліяграфічнымі даведнікамі пра Янку Купалу, Якуба Коласа, Кандрата Крапіву, Паўлюка Труса, Максіма Танка і іншых пісьменнікаў. Выстаўлены зборнікі летапісу друку БССР за розныя гады, зводны каталог замежных перыядычных выданняў, якія атрымлівае бібліятэка, картотэкі рэкамендацыйныя спісы літаратуры аб вопыце перадавых сельскіх гаспадарак. Вялікім попытам у культасветработнікаў карыстаюцца серыі брашур «З вопыту работы масавых бібліятэк» і «У дапамогу масавым бібліятэкам БССР».

**Насустрач з'ездам кінематаграфістаў**

# СЕМ ПЫТАННЯЎ І АДКАЗАЎ

*Расказвае дырэктар кінастудыі «Беларусьфільм» І. Л. Дорскі*

**— З чым прыходзіць калектыў студыі «Беларусьфільм» да рэспубліканскага і Усесаюзнага з'ездаў савецкіх кінематаграфістаў?** — з такім першым пытаннем звярнуўся наш карэспандэнт да дырэктара студыі заслужанага дзеяча мастацтва БССР І. Дорскага.

— Як вы, напэўна, ведаеце, з уводам у строй новага будынка з'явілася рэальная магчымасць значна павялічыць вытворчасць фільмаў. Бо зусім нядаўна беларуская кінематаграфія выпускала ў сярэднім толькі два-тры фільмы за год. Пагадзіцеся, што гэта надзвычай мала для такой рэспублікі, як наша.

— Гэтая акалічнасць, — гаворыць далей І. Дорскі, — зразумела, не садзейнічала творчаму спаборніцтву кінамайстроў, таму што над стварэннем фільмаў працавала адна і тая ж невялікая група людзей. Апроч таго, пачынаючыя маладыя кінематаграфісты, за рэдкім выключэннем, фактычна не вылучаліся на самастойную работу, не атрымлівалі магчымасці спрабаваць свае сілы ў кінамастацтве. Так што, бачыце, пашырэнне кінавытворчасці — не толькі чыста арыфметычнае павелічэнне колькасці карцін. Яно, як мне здаецца, адыграе сваю ролю і ў справах творчых. Зрэшты, я сказаў не зусім дакладна: не «адыграе», а ўжо ў якойсьці ступені адыгрывае сваю ролю. Так, цяпер мы працуем над сямю поўнаметражнымі мастацкімі фільмамі. У іх стварэнні заняты як майстры старэйшага пакалення, так і маладыя кінематаграфісты, нядаўнія выпускнікі Усесаюзнага дзяржаўнага інстытута кінематаграфіі.

**— Раскажыце, калі ласка, хоць бы коратка пра фільмы, над якімі зараз працуе калектыў «Беларусьфільма»?**

— Наш старэйшы кінарэжысёр Ул. Корш-Саблін працуе над карцінай «Масква—Генуя». Яна ставіцца па сцэнарыі кінадраматурга А. Спешнева. Аператар карціны А. Булінскі. Гэты новы твор студыі расказвае пра барацьбу нашай дыпламатыі за прызнанне Савецкай дзяржавы на міжнароднай арэне, пра тое, як маладая Краіна Саветаў з першых крокаў свайго існавання павяла рашучую барацьбу за мір, за ўсеагульнае раззбраенне. У фільме ўзнаўляецца вобраз выдатнага савецкага дыпламата Чычэрына.

Пра змест карціны «Трэцяя ракета», якую здымае рэжысёр Р. Віктараў, гаварыць не даводзіцца. Аповесць беларускага празаіка Васіля Быкава добра вядома не толькі беларускаму, але і ўсесаюзнаму чытачу. Па сцэнарыі В. Труніна «Апошні хлеб» ставіць фільм рэжысёр Б. Сцяпанаў. Будучая кінакарціна прысвечана працы беларускіх камсамольцаў на цаліне. Падзеі, на першы погляд, будзённыя, але поўныя вялікага напружання, прасякнуты вялікай чалавечнасцю і глыбінёй, раскрываюць прыгажосць, высакароднасць савецкіх маладых людзей.

Цікавай абяцае быць «Лялечная камедыя». Гэта вясёлая казка пра нашы дні. Пастаноўка карціны даручана В. Бычкову. Сцэнарый напісалі кінадраматургі В. Вітковіч і Г. Ягдфельд.

Кінафільм пра тых людзей, што загінулі смерцю адважных у жорсткай сутычцы з ворагам, абараняючы Радзіму, пра тое, кім гэтыя людзі маглі быць і як многа маглі б яны зрабіць, калі б не было на зямлі фашызму, здымае рэжысёр Б. Рыцараў па сцэнарыі Р. Вікерса і А. Канеўскага (аператар І. Пікман). Гэты фільм называецца «Сорак мінут да світання».

Вось тыя творы, што здымаюцца ўжо зараз на студыі. Апроч таго, ідзе падрыхтоўчая работа да здымкаў камедыі «Рагаты бастыён». У аснову сцэнарыя А. Макаёнка пакладзена яго вядомая п'еса «Лявоніха на арбіце». Ставіць карціну будуць два рэжысёры — С. Сплашноў і П. Васілеўскі. Аператар — Ул. Акуліч. У падрыхтоўцы знаходзіцца сцэнарый А. Кучара «Песня пра Вераніку» (рэжысёр В. Вінаградаў).

**— Калі меркаваць па вашай інфармацыі, дык можна зрабіць вывад, што вялікая вытворчая нагрузка падае на плечы маладых?**

— Так, вы маеце рацыю. І Віктараў, і Сцяпанаў, і Бычкоў, і Рыцараў належаць да самага маладога пакалення кінарэжысёраў, якія толькі пачынаюць свой творчы шлях у кінематографе. Для адных — гэта дэбют, для іншых — толькі другая карціна.

**— Відаць, на студыю прыйшлі і іншыя маладыя творчыя работнікі? Не толькі рэжысёры?**

— Зразумела. У рабоце над названымі фільмамі ўдзельнічаюць маладыя сцэнарысты, аператары, мастакі. Вось, напрыклад, «Апошні хлеб». Для В. Труніна — гэта першы сцэнарый, для Б. Сцяпанава і аператараў А. Забалоцкага, Ю. Марухіна — першая вялікая карціна. Мастак «Лялечнай камедыі» В. Леванталь і аператар М. Кожынь — таксама маладыя і таксама ўпершыню ўдзельнічаюць у стварэнні вялікага фільма. Дарэчы, я выпусціў з-пад увагі яшчэ дзве работы маладых кінематаграфістаў — невялікія кінанавелы здымаюць студэнты-дыпломнікі Інстытута кінематаграфіі А. Грачыха і І. Дабралюбаў.

**— Напэўна, у маладых не абыходзіцца без цяжкасцей. Усё ж у іх яшчэ мала вопыту, мала вытворчай практыкі?**

— Цяжкасці, безумоўна, ёсць. Але мы стараемся памагчы маладым. У нашай моладзі ёсць цяпер вопытны «апякун», яе настаўнік па інстытуту, прафесар рэжысуры С. Скварцоў. Ён запрошаны на нашу студыю для творчай дапамогі сваім былым вучням. Ён праглядае матэрыялы фільмаў, дае парады, памагае ў падборы акцёраў.

Актыўна працуюць на студыі майстры старэйшага і сярэдняга пакаленняў. Новую карціну «Вуліца малодшага сына» нядаўна закончыў Л. Голуб. Рыхтуецца да пастаноўкі фільма «Крыніцы» І. Шульман (сцэнарый І. Шамякіна і Ю. Шчарбакова). Пра работу Ул. Корш-Сабліна, С. Сплашнова і П. Васілеўскага я ўжо гаварыў. Увогуле, на мой погляд, няма мастакоў старых і маладых. Ёсць мастакі, якія ставяць «старыя» карціны, і мастакі, якія здымаюць фільмы «маладыя». Свежасць думак і пачуццяў, уменне па-свойму расказаць пра з'явы сённяшняга жыцця вызначаюцца не ўзростам. Характэрны прыклад гэтага — новая карціна аднаго са старэйшых савецкіх кінарэжысёраў М. Рома «Дзевяць дзён аднаго года».

**— Якія фільмы намечаны да выпуску ў наступным, 1963 годзе?**

— Частка фільмаў, якія я называў, пераходныя. Яны будуць закончаны ў наступным годзе. Гэта — «Трэцяя ракета», «Масква — Генуя», «Сорак мінут да світання», «Рагаты бастыён». Апроч таго, запускаюцца ў вытворчасць у 1963 годзе фільмы «Крыніцы» і «Песня пра Вераніку».

**— Чытачам нашай газеты было б цікава ведаць пра ўдзел у напісанні сцэнарыяў пісьменнікаў, у прыватнасці беларускіх. І пра тое, якія студыя прымае захады для прыцягнення ў кіно пісьменнікаў у будучым?**

— Калі я гавару пра новыя фільмы, то называў імёны аўтараў сцэнарыяў. Сярод іх, як вы памятаеце, былі нашы пісьменнікі В. Быкаў і А. Макаёнак. Працуе над сцэнарыем і І. Шамякін. Апроч «Крыніц» ён здаў нядаўна студыі сцэнарый «Не той гонар». Пра слаўную дачку беларускага народа Веру Харужую нядаўна закончыў сцэнарый А. Кучар. Я ўжо казаў пра яго. Называецца ён «Песня пра Вераніку». Карціну будзе ставіць рэжысёр В. Вінаградаў. Кінапаэму «Гнеўнае сонца спякотнае» напісаў малады беларускі пісьменнік Ул. Караткевіч. Экранізуе свой раман «Вайна пад стрэхамі» А. Адамовіч. Між іншым, Адамовіч і некалькі іншых пісьменнікаў устанавілі творчыя сувязі са студыяй пасля рэспубліканскага семінара кінадраматургаў, удзельнікамі якога яны былі. Арганізацыя такіх семінараў — важная і карысная справа. Аўтары прыходзяць на яго са сцэнарыямі, творчымі заяўкамі. Працуюць над сваімі кінатворамі пры кансультацыі кінарэжысёраў. Праводзіць такія семінары намечана сістэматычна. На чарговы семінар запрошаны Я. Брыль, І. Навуменка, А. Маўзон, А. Вялюгін і іншыя.

Пішуць для беларускай студыі сцэнарыі і вядомыя рускія пісьменнікі П. Нілін, Ю. Нагібін. Нядаўна мы атрымалі ад П. Ніліна сцэнарый, створаны на аснове яго аповесці «Праз могілкі». Ужо намечан рэжысёр-пастаноўшчык — В. Тураў. «Я родам з дзяцінства» — так называецца сцэнарый маладога кінадраматурга Г. Шпалікава. Днямі да нас паступіў новы сцэнарый М. Фігуроўскага «Колькі летаў, колькі зім».

Зразумела, не ўсе гэтыя сцэнарыі цалкам задавальняюць студыю. Над многімі патрэбна яшчэ нямала працаваць. Вялікія надзеі мы ўскладаем на сцэнарную калегію, якая будзе ў нас створана ў бліжэйшы час. У яе ўвойдуць буйнейшыя пісьменнікі рэспублікі.

Мы разумеем, што кіраўніцтву студыі, яе сцэнарнаму аддзелу варта звярнуць самую сур'ёзную ўвагу на падрыхтоўку кінасцэнарыяў, прысвечаных нашым дням. У нас не хапае сцэнарыяў пра рабочы клас, мала іх і на гісторыка-рэвалюцыйную тэму.

Пастанова Цэнтральнага Камітэта Камуністычнай партыі «Аб мерах па паляпшэнню кіраўніцтва развіццём мастацкай кінематаграфіі» да многага абавязвае. Мы прыкладаем усе намаганні, каб стварыць творы высокага ідэйна-мастацкага ўзроўню, творы, вартыя нашага цудоўнага часу. У гэтым мы бачым сваю галоўную задачу.

# СВАІМ СВЯТЛОМ!

Надзвычай цяжка схлусіць у прозе. Любы фальш тут адразу відаць. Гэта свайго роду імунітэт, які за стагоддзі існавання выпрацавала літаратура, ахоўваючы сябе ад нікчэмнай балбатні, пустаслоўя і бяздумнага штукарства. Менш абаронена ад іх драма. Артысты ўласнай душэўнай сілай, страснай пераконанасцю могуць часам узвысіць і напоўніць падабенствам жывога хвалявання слабую, нават фальшывую п'есу.

Але яшчэ менш «імунітэту» мае кіно. Праўдападобнасць дасягаецца тут з дапамогай фатаграфічна дакладнага ўзнаўлення жыцця — ва ўсёй яго відавочнай рэальнасці. Міжволі пранікаючыся гэтай рэальнасцю, глядач пераносіць гэтае пачуццё і на змест карціны. І ў гэтым адна з прычын таго, што шэрыя, пустыя фільмы, якія не нясуць у сабе ні праўды падзей, ні праўды чалавечых характараў, выпускаліся і выпускаюцца ва ўсім свеце на экраны. Іх «выцягваюць» добрыя артысты, рэжысура, часам аператары. Такія карціны жывуць нібыта адлюстраваным святлом. Уласнага святла — яркай арыгінальнай думкі, мудрай праўды пісьменніцкага пранікнення ў падзеі яны не маюць.

Гэтая ўласцівасць кінематографа — раўняць у правах версіфікацыю і паэзію — не можа не выклікаць глыбокай трывогі. Ведаючы за кінематографам гэтую ўласцівасць (якая не выклікаецца патураннем або памылкай, але ёсць яго якасная асаблівасць), мы не можам не лічыць найбольш важным пытаннем, найбольш значнай праблемай цяперашняга часу праблему сцэнарную. Прычым гэта праблема выяўляецца не ў абстрактнай адсутнасці сцэнарыяў, а ў неабходнасці самага шырокага і самага актыўнага ўдзелу пісьменнікаў у справах кіно.

Сцэнарыі ў студыйных партфелях заўсёды ёсць, гэтак жа як ёсць у выдавецтвах і рэдакцыях дастатковая колькасць твораў, напісаных радкамі няроўнай даўжыні і з чаргаваннем рыфмаў. Але сапраўднай паэзіі да крыўднага мала. Я не адкрыю сакрэту, калі скажу, што вельмі часта запуск карцін у вытворчасць суправаджаецца не раднымі надзеямі, а панурай пакорлівасцю перад словам «трэба»: трэба запускаць карціны, бо інакш студыя перастане існаваць, людзі застануцца без справы, фінансавая і вытворчая раўнавага парушыцца. І карціна запускаецца ў надзеі на тое, што цёмнае цела набудзе ў працэсе здымкаў люстраную здольнасць блішчаць адбітым святлом.

Я мог бы паўтарыць традыцыйныя крыўды кінематаграфістаў на няўдзел або на малы (што больш справядліва) удзел пісьменнікаў у рабоце кінастудыі, на тое, што яны нібыта пагарджаюць магчымасцю выказаць свае думкі, якія іх хвалююць, звяртаючыся адразу да шматмільённай аўдыторыі з вялікай усенароднай трыбуны, якою з'яўляецца кіно. Але я лічу гэтую крыўду несправядлівай. Віна тут галоўным чынам наша. Мы нічога не зрабілі практычна для таго, каб прыцягнуць пісьменнікаў да работы ў кіно. Сходы і нарады, якія мы праводзім разам з пісьменнікамі, могуць быць патрэбнымі і карыснымі хіба толькі ў падвядзенні вынікаў або ў абмеркаванні асобных дзелавых прынцыпаў, але ніяк не могуць пакласці пачатак нашай сумеснай рабоце. Для таго, каб паварот руля сапраўды павярнуў машыну, трэба, каб сама машына рухалася. А мы ўвесь час спрабуем руліць, стоячы на месцы.

У пастанове ЦК КПСС «Аб мерах па паляпшэнню кіраўніцтва развіццём мастацкай кінематаграфіі» з надзвычайнай вастрынёй пастаўлена пытанне аб неабходнасці карэнных пераўтварэнняў у справе падрыхтоўкі і вытворчасці фільмаў. Час пакончыць з пасіўнай назіральнай пазіцыяй чакання вынікаў і перайсці да актыўнай барацьбы за вынікі — такі сэнс аднаго з важнейшых палажэнняў гэтай пастановы.

Але ці можам мы палепшыць нашу дзейнасць, пакінуўшы ў ранейшым стане нашы ўзаемаадносіны, г. зн. адносіны студыі і пісьменнікаў, адносіны паміж Саюзам работнікаў кінематаграфіі і Саюзам пісьменнікаў? Мы ўвесь час спрабуем знішчыць прычыны, якія нас раз'ядноўваюць, замест таго, каб стварыць такую абстаноўку, знайсці такія формы адносін, якія нас аб'ядноўвалі б і садзейнічалі б нашаму дзелавому збліжэнню.

Неабходнасць кантактаў прымушае нас думаць перш за ўсё аб тых спосабах, з дапамогай якіх гэтыя кантакты могуць быць устаноўлены. Сцэнарны дагавор, на які мы звычайна спадзяёмся, можа толькі замацаваць (і то не вельмі трывала) ужо ўстаноўленыя адносіны. А справа заключаецца ў тым, каб іх устанавіць.

Бяда ў тым, што мы свае кантакты з пісьменнікамі разглядаем па-спажывецку, гэта значыць аднабакова: «вы пішыце, а мы будзем ставіць, а што ў нас атрымаецца — гэта ўжо наша справа». Зразумела, адкрыта так не гаворыцца, але так выходзіць на практыцы. І пісьменнік, які напісаў сцэнарый, у большасці выпадкаў аказваецца выключаным са справы, як толькі карціна запушчана ў вытворчасць. Адносіны пісьменніка і кінастудыі ў гэтым перыядзе перастаюць быць супрацоўніцтвам, а становяцца простай ветлівасцю: няёмка не запрасіць на прагляд матэрыялу, няёмка не спытаць думкі і г. д. Ды і ветлівасць гэтую мы праяўляем далёка не заўсёды.

Відавочна, трэба падумаць аб прынцыпах такога супрацоўніцтва аўтара і рэжысёра, якія з разраду добрых намераў перайшлі б у форму дзелавых адносін, былі б замацаваны строгай абавязковасцю ўдзелу пісьменніка ў рабоце над фільмам ад пачатку і да канца яго стварэння.

Для таго, каб пісьменнікі сталі ахвотна працаваць у кіно, трэба зрабіць так, каб яны палюбілі сам працэс гэтай работы. А палюбіць яго яны могуць, толькі ўведаўшы яго. Уведаўшы не па выпадкова ўбачаных дэталях нашай звычайнай сумятні (выпадковыя дэталі могуць хутчэй адштурхнуць, чым наблізіць), а па сумеснай рабоце над фільмам. Пісьменнік, які даведаўся на практыцы, як з вонкава хаатычнай кінематаграфічнай мітусні нараджаецца фільм, пачынае звычайна любіць гэтую работу. Яго далей не трэба ўгаварваць пісаць сцэнарый.

Мы павінны шырока расчыніць дзверы студыі перад пісьменнікамі. Трэба не толькі стварыць на студыі пісьменніцкі салон, свайго роду гасцінную для сустрэч і прыёмаў. Перш за ўсё неабходна прадумаць і ажыццявіць такую сістэму вытворчых адносін, якая дазволіла б пісьменніку, які прыйшоў на студыю, адчуваць сябе неабходным удзельнікам усіх работ, адным з самых важных і адказных работнікаў студыі.

М. ФІГУРОЎСКІ, кінарэжысёр.

**Маякі культурнага фронту**

# ГЭТА РОБЯЦЬ ЧУЛЫЯ ЛЮДЗІ

Кінатэатр «Дзіцячы» — пакуль што адзіны ў Мінску стацыянарны кінатэатр для школьнікаў. У глядзельнай зале яго — дзвесце месц. Гэта нямнога, і ўсё ж за дзень фільмы глядзяць да тысячы школьнікаў.

Рэпутацыя кінатэатра не прыйшла да «Дзіцячага» сама па сабе. Невялікі калектыў яго работнікаў на чале з дырэктарам Ф. Люцко заваяваў яе старраннай выхаваўчай і культурна-масавай работай сярод школьнікаў.

Побач з паказам новых фільмаў тут часта практыкуюцца тэматычныя прагляды карцін. На такую важную ў жыцці савецкіх дзяцей падзею, як 40-годдзе піянерскай арганізацыі імя Ул. І. Леніна, кінатэатр адгукнуўся адкрыццём лекторыя, што працаваў каля трох месяцаў. Увазе гледачоў было прапанавана дзевяць фільмаў, якія адлюстроўваюць гераічныя справы юнага пакалення: «Педагагічная паэма», «Добраахвотнікі», «Дзяўчынка шукае бацьку», «Цімур і яго каманда», «Сябра мой, Колька!» і іншыя. Перад сеансамі праводзіліся гутаркі на тэмы: «Яны былі першымі», «Бяры з камуністаў прыклад», «Піянеры — героі Вялікай Айчыннай вайны», «Нам будаваць камунізм».

Спадабаўся школьнікам і музычны лекторый «Руская і зарубежная класічная музыка», арганізаваны па ініцыятыве студэнтаў кансерваторыі. Па нядзелях, у дні прагляду кінакарцін, спецыяльна адабраных для лекторыя, зала была перапоўнена. Інакш і быць не магло, бо гледачоў чакала багатая «праграма»: кароценькі даклад, канцэрт, фільм. Змястоўныя былі выступленні студэнтаў А. Каняга, Н. Ляпілінай, Г. Суславай, В. Паўлавай, В. Куліковай аб творчасці выдатных рускіх і зарубежных кампазітараў. Адначасова дзеці глядзелі фільмы: «Кампазітар Глінка», «Рымскі-Корсакаў», «М. П. Мусаргскі», «Імя Чайкоўскага», «Дай руку, жыццё маё!».

Сярод іншых мерапрыемстваў можна вылучыць жнівеньскі кінафестываль «Казкі народаў», які адлюстроўваў невычарпальнае багацце фальклору розных народаў, а таксама кінацыклы-ўрокі ў дапамогу школьнікам па гісторыі і літаратуры. Прыцягнуў увагу юных гледачоў дыспут на тэму «Каго з герояў фільмаў ты возьмеш з сабою ў камунізм?» Пасля прагляду фільмаў «Хлопчыкі», «Цімур і яго каманда», «Старажыл» 14 верасня адбыўся дыспут.

Кінатэатр наладжвае сустрэчы школьнікаў з ветэранамі рэвалюцыйнага руху, знатнымі людзьмі рэспублікі, героямі працы, заслужанымі настаўнікамі, кінаработнікамі. Адбылася, напрыклад, сустрэча юных гледачоў з кінаакцёрам Р. Фурманам, які здымаўся ў галоўных ролях у фільмах «Корцік», «Зоркі на крылах», «Алёша Пціцын выпрацоўвае характар» і інш.

Кінатэатр «Дзіцячы» працуе ў цесным кантакце з грамадскімі арганізацыямі школ, асабліва Ленінскага раёна. Карысць ад гэтай дружбы вялікая. Школьнікі-кінаарганізатары прымаюць актыўны ўдзел у штодзённай рабоце свайго кінатэатра, асабліва ў выхадныя дні. Ім давяраецца тут усё: вучні стаяць на кантролі, дзяжураць у касавай зале, фае. Школьнікі рыхтуюць тэксты для радыёгазеты, яны выпускаюць насценгазету «Юны глядач». Пад кіраўніцтвам тэхнарука А. Броня і старэйшага кінамеханіка А. Якаўлева падрыхтавана вялікая група юных кінамеханікаў, якія цяпер паспяхова працуюць на вузкаплёначных апаратах «Украіна». Адміністрацыя «Дзіцячага» кіруе дзейнасцю кінатэатраў школ №№ 21 і 30. Хутка ў 30 школе пачне працаваць кіналекторый для бацькоў.

Сістэматычна дапамагаюць кінатэатру «Дзіцячы» Ленінскі райком камсамола, калектыў гарадской дзіцячай бібліятэкі імя М. Астроўскага, гарадское аддзяленне Таварыства па распаўсюджванню палітычных і навуковых ведаў і іншыя грамадскія арганізацыі горада. Гэтая сувязь знайшла практычнае вырашэнне ў стварэнні педагагічнага савета кінатэатра. Член савета — загадчыца школьнага аддзела Ленінскага райкома камсамола Ала Карпусенка наладжвае сустрэчы юных гледачоў з ударнікамі камуністычнай працы; на абавязку работніка гарадской дзіцячай бібліятэкі Ганны Ліякумовіч — арганізацыя ранішнікаў, гутарак, дыспутаў.

Юны глядач хутка будзе сведкам і ўдзельнікам многіх новых цікавых мерапрыемстваў. Сярод іх — гутарка пра рускага мастака Крамскога з віктарынаю «Ці ведаеш ты рускіх мастакоў?», гутаркі «Людзі нашых дзён», «Мы памагаем старым», «Любі і ахоўвай родную прыроду» з віктарынаю «Ці ведаеш ты птушак?», літаратурная гульня «Што ты ведаеш пра справы піянераў нашай краіны?», вусны часопіс «Чалавек штурмуе космас» і рад іншых, не менш цікавых задум.

Х. САЛАМОНІК.

## МЯСЦОВЫЯ АЎТАРЫ—САМАДЗЕЙНАСЦІ

Да позняй ночы зацягваюцца рэпетыцыі ў Клімавіцкім раённым Доме культуры. Мясцовы ансамбль песні і танца рыхтуе да Дэкады самадзейнага мастацтва Беларусі кампазіцыю «Калгаснае вяселле», якую напісаў мясцовы аўтар М. Гарнак. Кампазіцыя расказвае аб радасным жыцці, вялікай любві і самаадданай працы маладых людзей калгаснага сяла.

«Касцюковіцкія вечары» — так называецца музычна-харэаграфічная сюіта, якую рыхтуе хор Касцюковіцкага раённага Дома культуры. Аўтарамі яе з'яўляюцца самі ўдзельнікі самадзейнасці.

Мясцовыя аўтары дапамагаюць многім калектывам абнаўляць свае праграмы. У рэпертуары народнага хору даяркі калгаса імя Пушкіна Бабруйскага раёна — складзеныя тут гумарыстычныя частушкі пад назвай «Ручнікі». Яркую кантату «Прывітальная Мінску» стварыў для хору з аркестрам самадзейны кампазітар І. Пятроў-Кумінскі на словы А. Пысіна і В. Матэвушава. Амаль усе харавыя калектывы Шклоўскага раёна выконваюць песню выкладчыка мясцовай музычнай школы М. Рыўкіна «Жаніхі». Лірычная песня «Бярозка» Н. Барадаўкі ўвайшла ў рэпертуар Магілёўскай народнай харавой капэлы. Рад песень стварыў для ансамбля песні і танца Бабруйскай швейнай фабрыкі імя Дзяржынскага мастацкі кіраўнік М. Мільчын.

Да Дэкады беларускага самадзейнага мастацтва метадычны савет абласнога Дома народнай творчасці адабраў і рэкамендаваў харавым і танцавальным калектывам, вакальным дуэтам, трыо і салістам больш 50 новых песень і музычных твораў. Многія з іх створаны самадзейнымі кампазітарамі.

БЕЛТА.

